# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 48 (1698) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 27 ЛІСТАПАДА 1988 г. ЦАНА 20 зл.


## Любіце свой край!

**РАЗМОВА З СЫНАМ ЯКУБА КОЛАСА ДАНІЛАМ МІЦКЕВІЧАМ.**

**— Мабыць, усе беларусы ведаюць Якуба Коласа як пісьменніка. Сказанае адносіцца і да беларусаў — з Беласточчыны. Аднак нямногія толькі ведаюць Якуба Коласа як чалавека. Таму і прашу Вас расказаць аб ім як чалавеку, мужу, бацьку.**

— Якуб Колас пражыў досыць доўгае жыццё. Ён памёр на 74 годзе. Я памятаю бацьку недзе з пяці гадоў. Больш сарака гадоў я жыў пры ім „свядомым" жыццём, назіраў за ім, слухаў яго і чытаў яго. І вось таму многа аб бацьку магу сказаць. Мне здаецца, што сялянскае паходжанне Якуба Коласа акрэслівала яго характар, паводзіны і, зразумела, творчасць. Нягледзячы на тое, што жылі мы ў горадзе, бацька кіраваўся сялянскім распарадкам дня. Вельмі рана прачынаўся, недзе каля шостай гадзіны і параўнаўча рана клаўся спаць: недзе так паміж дзевятай і дзесятай гадзінай вечара. Вельмі любіў фізічную працу. Пасля рэвалюцыі мы жылі ў кватэры, у якой былі печы. Трэба было рыхтаваць дровы. І вось Якуб Колас раніцай перад снеданнем пілаваў дровы, сек іх і ўкладаў у кастры. Ён жа паліў у печах, выбіраў попел. Любіў вельмі замятаць і чысціць панадворак, зімою адкідаў снег. У летні час сістэматычна працаваў у садзе і агародзе. Усё гэта, як правіла, рабіў да снедання. Пасля снедання сядаў і разбіраў карэспандэнцыю. Характарызаваўся вернасцю свайму слову. Ніколі не даваў пустых абяцанак. Калі нешта каму паабяцаў, дык нават калі б выкананне гэтай абяцанкі патрабавала няведама колькі высілку, абавязкова абяцанку выконваў.

Да бацькі як дэпутата Вярхоўнага Савета прыходзіла вельмі многа людзей. Ішлі з рознымі справамі. Адзін жыў у бядзе, другому кагосьці з сям'і паса-

(Працяг на стар. 4)



## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

4 лістапада г.г. адбылося першае пасля XI З'езда БГКТ пасяджэнне новага Прэзідыума ГП БГКТ, у які ўвайшлі: Аляксандр Баршчэўскі (старшыня), Мікалай Алексяюк, Мікалай Бушко, Аляксандр Івваноўскі, Юрка Каліна, Аляксей Карпюк, Валянціна Ласкевіч, Віталій Луба, Сяргей Лукашук, Анатоль Мартыновіч, Мікалай Нікалаюк, Сакрат Яновіч.

Згодна з пастановай, прынятай на З'ездзе, на пасяджэнні Прэзідыума разглядаліся кандыдатуры намеснікаў старшыні і сакратара ГП БГКТ. Аляксандр Баршчэўскі запрапанаваў Аляксандра Іваноўскага на штатнага намесніка старшыні ГП, Мікалая Нікалаюка на другога намесніка (няштатнага), а Яна Максімюка, члена ГП БГКТ, на сакратара. Кандыдатуры былі адобраны членамі Прэзідыума. Прынята пастанова паставіць гэтыя кандыдатуры пад зацвярджэнне на першым пасляз'ездаўскім пасяджэнні Галоўнага праўлення.

Апрача гэтага, Прэзідыум разгледзеў шэраг багучых праблем, звязаных з актуальнай дзейнасцю БГКТ. Між іншым, была прынята пастанова наладзіць адно з бліжэйшых пасяджэнняў Прэзідыума ў Гайнаўцы і прысвяціць яго выключна справе пабудовы Беларускага музея.

Ян Максімюк

## САЮЗНІКІ І ГАРАНТЫ

**СЛОВА ПРАДСТАЎНІКА ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ПАРП ТАВ. АЛЯКСАНДРА БАЛЯХОЎСКАГА НА XI З'ЕЗДЗЕ БГКТ.**

Паважаныя дэлегаты і ўдзельнікі XI З'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства!

Дзякую за магчымасць удзельнічаць у вашым З'ездзе і праслухоўвацца да яго працы. Бліжэй пазнаю вашы патрэбы, праблемы і ўласнае бачанне месца ў пабудове сацыялізму ў Польшчы, як было сказана ў дыскусіі, паводле ленінскіх прынцыпаў.

Жывем у цяжкіх, але цікавых часах. Сацыялізм уваходзіць аб'ектыўна ў новую фазу, у працэс абнаўлення і перабудовы сваёй фармацыі. Усе камуністычныя і рабочыя партыі ўсведамляюць гэта і ўзначальваюць тыя зрухі.

Перастройка, абнаўленне, галоснасць, развіццё дэмакратыі, рэформы, неспакой у пошуках новых дарог развіцця сацыялізму ў СССР, у нас, у іншых краінах нашай супольнасці — гэта сучасныя знакі часу і надзеі.

Галоўным фактарам нашай польскай паспяховай будучыні будзе ўдача гаспадарчай рэформы, канскекветнае ажыццяўленне прынцыпаў яе II этапу, развіццё дэмакратыі. Захаванню грамадскага спакою і нацыянальнаму пагадненню мае служыць пасяджэнне „круглага стала", якое неўзабаве павінна пачацца. Гэта вядомая ініцыятыва Польскай аб'яднанай рабочай партыі, якая імкнецца згуртаваць вакол найважнейшых спраў Айчыны і яе будучыні ўсе канструктыўныя грамадскія сілы, нават тыя, якія прадстаўляюць адменныя ідэалогіі і светапогляды.

Толькі грамадства як цэласць можа лепш і больш эфектыўна выпрацаваць канкрэтныя сродкі па забеспячэнню пажаданага ўзроўню матэрыяльнага і духоўнага жыцця народа. Развіццё розных форм дэмакратыі (не анархіі) дае таму гарантыю. Усе мы грамадзяне гэтай краіны і ў нашых руках яго паспяховая будучыня і тэмпы прагрэсу, у тым ліку і ступень забеспячэння патрэб нацыянальных меншасцей, аб чым была мова ў дакладах і ў дыскусіі. Аднак не можа гэта весці да непатрэбнага нікому антаганізавання грамадства і ўзмацнення яго падзелаў.

— ✻ —

Польскія грамадзяне іншых нацыянальнасцей, якія ў нас пражываюць, маюць роўныя, канстытуцыйна гарантаваныя правы ва ўсіх галінах дзяржаўнага, палітычнага, гаспадарчага, грамадскага і культурнага жыцця. Фактычная раўнапраўнасць непольскага насельніцтва праяўляецца таксама і ў тым, што мае яно магчымасць культывавання на роднай мове культуры і асветы, а таксама вядзення грамадскай дзейнасці ў рамках уласных нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў. Ад іх саміх залежыць, у якой ступені яны выкарыстаюць гэтыя магчымасці для ўласцівых статутовых мэт. Трэба сказаць, што прадстаўнікі нацыянальных меншасцей актыўна ўдзельнічаюць у грамадска-палітычным жыцці краіны, займаючы адказныя пасады, а таксама выконваючы розныя функцыі ў палітычных арганізацыях, дзяржаўнай адміністрацыі, у грамадска-гаспадарчым жыцці, на ніве асветы, навукі і культуры — без дыскрымінацыі. Беларускае насельніцтва — у прыватнасці тут на Беласточчыне — выкарыстоўвала гэтыя магчымасці, давала доказы лаяльнасці Айчыне, Польскай Народнай Рэспубліцы.

Нацыянальная палітыка, якая вядзецца ў Польшчы, прадбачвае аклічнасці і рэаліі, абумоўленыя гістарычнымі падзеямі,

(Працяг на стар. 2)

# УРАЧЫСТАСЦЬ У НАРВЕ

22 кастрычніка ў Нарве адбылася вялікая ўрачыстасць — перадача ў карыстанне дзецям і настаўнікам новай шматпавярховай і прыгожай школы, а дакладней — цэлага комплекса школьных будынкаў. У галоўным вучэбным корпусе ёсць 18 класных пакояў, складзікі на навуковыя дапаможнікі, лекарскі і дэнтыстычны кабінеты, асобныя пакоі для школьных арганізацый і калектываў давучвання. Побач — адміністрацыйны будынак са сталоўкай на 120 месц і па-сучаснаму абсталяванай кухняй, з бібліятэкай, настаўніцкім пакоем і дырэктарскім кабінетам, святліца, тут жа і гімнастычная зала з патрэбнымі памяшканнямі, а таксама 18-кватэрны дом для настаўнікаў. Не забыліся будаўнікі і пра ачышчальню сцёкаў, аддаўшы яе на час, што вельмі радуе жыхароў. Вядома ж, што ў гэтых ваколіцах Нарва яшчэ даволі чыстая, рыбная, і ўсе мараць аб тым, каб яна такая і далей заставалася.

Каштавала школа 340 мільёнаў злотых з поўным новым абсталяваннем. Пабудавала яе ў даволі кароткі час Бельскае прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва. Пачатак будовы прыпаў на лістапад 1985 года, а 1 чэрвеня 1986 года быў урачыста ўмураваны акт пабудовы. Тады ж, вясною 1986 года, дырэктар гэтай будаўнічай фірмы Ян Мікалушка сказаў у прыватнай размове:

— Плануюць аддаць школу ў 1989 годзе. Мы пастараемся зрабіць гэта раней, калі толькі не будзе сур'ёзных перашкод.

І выйшла, пабудавалі раней. Усе будаўнікі бачылі, у якіх умовах вучацца дзеці ў старой школе. Хацелі прыспешыць. І ўдалося. За гэта ім вельмі ўдзячны і бацькі і дзеці. Скончылася мучэнне дзяцей — сядзець зімою ў цесным і халодным будынку, які памятае яшчэ пачаткі нашага стагоддзя. А дарэчы, ёсць дакументы (аб іх гаварыў на адкрыцці новай школы дырэктар Янка Іванюк), што першая школа ў Нарве (вельмі старым, гістарычным мястэчку) была заснавана ў 1528 годзе. Гэта была школа толькі для хлапчукоў. Дзвесце гадоў пазней тут працавала ўжо і школа рукадзелля для дзяўчынак.

Новая прасторная, светлая і цёплая школа — гэта спаўненне мараў не аднаго пакалення нараўскай моладзі.

На ўрачыстасць з'ехалася шмат гасцей з усёй Польшчы, Многа было прадстаўнікоў будаўнічага прадпрыемства з Бельска. З нагоды добра выкананага абавязку пры пабудове гэтай і іншых школ, ды з нагоды Дня будаўнікоў тут, у Нарве, многім будаўнікам былі ўручаны дзяржаўныя і прафесіянальныя ўзнагароды. Дарэчы, ПБРоль у Бельску будуе нямала для асветы. У нашым ваяводстве — гэта ўжо чацверты школьны аб'ект. Цяпер бельскія будаўнікі працуюць пры новай школе ў Белавежы. І супрацоўніцтва з гэтай бельскай будаўнічай фірмай вельмі хваліць беластоцкі куратар асветы і выхавання Эдвард Крынскі, які на ўрачыстым адкрыцці новай школы ў Нарве сардэчна дзякаваў будаўнікам за добрае выкананне і перадачу школы дзецям раней тэрміну.

Да ўрачыстага адкрыцця новай школы грамадства Нарвы падрыхтавала дзецям свой падарунак — сабрала грошы і набыло школьны сцяг, які быў урачыста ўручаны школе.

У сувязі з тым, што школа прымала імя генерала Зыгмунта Берлінга, гасцьмі ўрачыстасці былі і прадстаўнікі Войска Польскага, воіны дывізіі імя Т. Касцюшкі. Яны прыехалі да дзяцей і настаўнікаў з віншаваннямі і пажаданнямі.

Урачыстасць закончылася канцэртам „Падляшскіх зязюлек“ — бельскага калектыву, які працуе пад кіраўніцтвам Мікалая Турковіча.

„Ніва“ далучаецца да ўсіх добрых пажаданняў дзецям і настаўнікам у новай школе і спадзяецца, што і далей будзе мець сярод іх сваіх чытачоў і сяброў.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара


*На ўрачыстым пастраенні перад новай школай гасцей прывітаў старшыня гмінай рады нарадовай М. Зубрыцкі.*


*Прадстаўнікі грамадскага камітэта фундацыі сцягу ўрачыста перадаюць яго дырэктару школы Янку Іванюку.*


*Госці і вучні ў гімнастычнай зале новай школы.*




**Ад сённяшняга нумара выдзяляем у нашым тыднёвіку новую палоску, паэтычную. Запрашаем араць, сеяць ды жаць усіх, пры адным толькі варунку: няхай на ёй закрасуюцца вершы, дагэтуль нязнаныя чытачам, свежыя, яшчэ ў кропельках расы-поту іхніх стваральнікаў. Хочам, каб на гэтай палосцы поступам адважным крочылі масцітыя, вопытныя майстры верша поруч з маладымі, толькі яшчэ прабуючымі сваё пяро, ды каб узрасталі тут буйна палкія, шчырыя пачуцці і скрыжоўваліся глыбокія думкі.**

**Няхай наша палоска не ведае ні брамаў, ні межаў і праходзіць бесперашкодна праз усе кантыненты свету, а ў творчым спаборніцтве няхай сустракаюцца на ёй усе, каму сэрца звоніць па-беларуску і думкі кладуцца на нашай роднай мове беларускай.**

**РЭДАКЦЫЯ**

— ✻ —

Калі здыму я з ашчадкніжкі
апошні смыканы рубель,
то вып'ю з польскага кілішка
і сам сабе спяю наэль.

У душу, расхрыстаную насцеж,
ганца адчаю не пушчу.
На мой хрыбет, нібы на шассі,
мацнейшы кузаў нарашчу.

І пакачу па шлях-дарозе
марошку есці ў дзікі рай,
дзе на сняжку рыпіць палоззе
і ззяннем свеціць небакрай.

**Славамір Адамовіч**
**БССР**

### ШЧЫРАСЦЬ

Жыву з акрытаю душою,
нібы наіўнае дзіця...
Адасабляць сябе мяжою
не ў правілах майго жыцця
ад клопатаў сяброў далёкіх,
няўдач суседа за сцяной,
ад лёсу дрэў і зор высокіх,
ад слоў, напудраных маной...
З трывогаю жыву на свеце,
бо ў ім суіснуюць даўно
падман і прагнасць, і бясчэсце,
што нас дурманяць, як віно...
Пытаеш: гэтак доўга будзе?
Ты кажаш: свет не пераверпеш...
Ды не! Мы ўсё ж такія людзі,
што нас ад веры не адвернеш.

**Міхась Мельнік**
**БССР**

### ПРЫВІДНЫ ГОРАД

Вецер
Спіны
Дамоў
Дугой
Выгінае.
Светлафора наліта вока крывёй.
Немата душу працінае.
Прывідны горад.
Адзіночкі і пары.
Час раптоўных спатканняў.
Час раптоўных аварый.
Самотнае існаванне
У гэткім часе.
У гэткім горадзе.
Душа належыць Святлу,
Змярканню, —
Зморана.

**Галіна Ракопа**
**БССР**

## БЕЛАРУСІКІ


Pochilewicz D.L., Kriestjanie Biełorussii i Litwy wo wtoroj połowinie XVIII w. Wilnius 1966, Rec. Lech M(arian). Julian. *Acta Boltico-Slavica* t. 6:1969, s. 309—314; Topolska Maria Barbara, *Roczniki Dziejów Społeczno-Gospodarczych* t. 29:1968, s. 160—164; Żytkowicz Leonid, *Kwartalnik Historyczny* 1968, nr 1, s. 115—123.

Pochilewicz D.L., Budżet chłopa na Białorusi i Litwie w XVI w. Tł. z ros. Artur Kijas. *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu im. A. Mickiewicza w Poznaniu*, Historia 1972, z. 12, s. 275—302, tab.

Poczanin S.Z., W grozowom wosiemnadcatom. Bolszewistskije organizacyi Biełorussii w bor'bie za własť Sowietow w 1918 godu, Mińsk 1969. Rec. Deruga Aleksy, *Z Pola Walki* 1971, nr 1, s. 251—257.

Podkoszyn Siemion, Rieformacija i obszczestwiennaja mysl Biełorussii i Litwy (wtoraja połowina XVI — naczało XVII w.), Mińsk 1970. Rec. Kosman Marceli, *Przegląd Historyczny* 1972, z. 4, s. 716—719; Topolska Barbara M., *Odrodzenie i Reformacja w Polsce* t. 17:1972, s. 235—238.

Padłużny A.I., Fanałahicznaja sistema biełaruskaj litaraturnaj mowy, Mińsk 1969. Rec. Sawicka Irena, *Slavia Orientalis* 1970, nr 3, s. 331—333.

Poezja Białoruska. (Antologia). Tł. z białor. Kazimierz A(ndrzej) Jaworski. *Kamena* 1982, nr 16, s. 7.

Pogranicznyje wojska SSSR w gody Wielikoj Otieczestwiennoj Wojny 1942—1945, Moskwa 1976. Rec. Oniszczuk Michał, *Wojskowy Przegląd Historyczny* 1985, nr 1/2, s. 491—503.

Pokropek M., Zróżnicowanie kulturowe na pograniczu etniczno-językowym i jego odbicie w świadomości mieszkańców na przykładzie pogranicza polsko-litewsko-białoruskiego w północno-wschodniej Polsce. *Etnografia Polska* 1979, t. 23, z. 2, s. 127—156, il. bibl.

Połnoje sobranije russkich letopisiej. T. 35. Letopisi biełorussko-litowskije, Moskwa 1980. Rec. Sielicki Franciszek, *Slavia Orientalis* 1981, nr 3, s. 359—360.

Poprzeczko Jacek, Cena zwycięstwa (zbrodnie na Białorusi). *Życie Warszawy* 1975, nr 110, s. 5, il.

Poprzeczko Jacek, Zwyczajne życie Galiny Miagkowej. (Fabryka Traktorów w Mińsku). Korespondencja z Mińska. *Życie Warszawy* 1975, nr 116, s. 5, il.

Porowski Bolesław, Wspólne wzrastanie. (Białorusini w Polsce). *Argumenty* 1969, nr 37, s. 6—7.

Powstanie i działalność Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady na Białostocczyźnie, Białystok 1973. Rec. Bergman Aleksandra, *Przegląd Historyczny* 1975, z. 2, s. 305—309; Tomczonek Zofia, *Rocznik Białostocki* t. 13: 1976, s. 588—589.

Poźniak Telesfor, Literatura białoruska w kręgu dwu rewolucji. *Slavia Orientalis* 1978, nr 4, s. 471—479.

Poźniak Telesfor, O radzieckiej poezji białoruskiej okresu wojny 1941—1945. *Acta Uniwersitatis Wratislaviensis no 381, Slavia Wratislaviensia* 1977, t. 12, s. 23—32.

Prokoszyna Jekatierina, Oczerk swobodomyslija i atieizma w Biełorussii w XIX w., Mińsk 1973. Rec. Skurjat Krystyna, *Euhemer 1975*, nr 1, s. 144—146.

Raczek Tomasz, Od Mickiewicza do Bryla. (Literatura białoruska). Korespondencja z Mińska. *Rzeczpospolita* 1982, nr 116, s. 4, il.

Radziejewski Janusz, Mniejszości narodowe w Polsce międzywojennej ze szczególnym uwzględnieniem mniejszości słowiańskich. *Wiadomości Historyczne* 1968, nr 2, s. 47—60.

Radziuk Ryszard, Idiejno-chudożestwiennoje swojeobrazije powiestiej W. Bykowa. *Rocznik Naukowo-Dydaktyczny*. Wyższa Szkoła Pedagogiczna w Rzeszowie. Filologia Rosyjska 1982, z. 5, s. 189—215.

Rahojsza V.P., Problema wierlibra w biełorusskoj poezii. *Zagadnienia Rodzajów Literackich* t. 12:1969, z. 1, s. 25—42.


P.C.

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Старая хата ў Арбасах Малых. Мал. У. Петрука.*

## НАША ПОШТА

**Арцём Палонскі з Лепля** (Віцебская вобл.) піша:

„Амаль 50 гадоў я не быў тут, у старым мястэчку Візна, што каля Ломжы. Цяпер мне ўжо 65 гадоў. Тады было зусім мала. Маладым настаўнікам з Усходняй Беларусі я прыехаў у Візну працаваць. Вайна і застала мяне тут.

І вось я зноў у Візне. Канешне, хацелася б сустрэць каго-небудзь са сваіх вучняў. Аднак яны не сустрэліся мне. Сустрэліся іх сваякі.

— А як жа, нам пра Вас расказвалі, — гавораць яны. — Вас многія памятаюць у Візне.

Прызнацца, вельмі прыемна пачуць такое.

Нас запрашаюць у вялікі, новы дом. Тут жывуць сваякі маіх вучняў. Мы размаўляем пра жыццё-быццё. Успамінаем, што было агульнага.

Візна. Вось тая вуліца, па якой хадзіў маладым. Нават тыя каменні на ёй. Той жа паварот ракі. Такі ж высокі абрыў да яе. У вяршалінах дрэў хаваецца стары касцёл.

Цікавай асаблівасцю валодае чалавечая памяць. Працуючы ў Візне, я добра вывучыў польскую мову. Праўда, каля 50 гадоў не карыстаўся ёй. І вось зноў у Візне памяць амаль поўнасцю аднаўляе лексічныя навыкі.

Прыемны ўспамін, прыемнае падарожжа.

Калі вас зацікавяць падрабязнасці, напішу“.

**Ад рэдакцыі:** Здаецца, што нашым чытачам будзе цікава пазнаёміцца з Вашымі ўспамінамі аб настаўніцкай працы да вайны. Напішыце аб гэтым.



# Любіце свой край

(Працяг са стар. 1)

дзілі ў турму, трэці ў справе школы і г.д. Якуб Колас салідна ўсімі такімі справамі цікавіўся і стараўся кожнаму дапамагчы. Цікава і тое, што калі назначыў гадзіну спаткання, то не было такога выпадку, каб спазніўся. Наадварот, прыходзіў раней і паглядаў на гадзіннік, нерваваўся, калі наведвальнік спазняўся. Дарэчы, бацька насіў толькі гадзіннікі кішэнныя, ручных не прызнаваў. Вельмі сур'ёзна адносіўся да пісем. Усе чытаў і на ўсе стараўся адказаць.

Пакончыўшы з пісьмамі, браўся за літаратурную працу. Здаралася, што над сваімі творамі працаваў і ў Акадэміі навук, дзе быў віцэ-прэзідэнтам. Зразумела, толькі тады, калі не перашкаджала гэта службовым абавязкам. Якуб Колас не цярпеў марнатраўства часу. Кожную хвіліну стараўся выкарыстаць.

**— Як выглядаў Якуб Колас?**

— Быў сярэдняга росту. Даволі моцнага складу цела. Вочы цёмныя. Меў шмат сілы. Мог дужацца з двума-трыма семінарыстамі і ўсіх перамагчы. Любіў цягацца за пальцы і рэдка каго не перамагаў (гаворачы гэта Даніла Міцкевіч схваціў сваім сярэднім пальцам мой сярэдні палец і я пачуў, як цягне не толькі маю руку, але і ўсяго мяне). Вось бачыце, — цягнуў расказ Даніла Міцкевіч, — а мне ж семдзесят чатыры гады. Ведайце, што бацька мяне без цяжкасці перацягваў тады, калі я быў намнога мацнейшы, чым сёння. Зразумела, гавару аб тым перыядзе, калі бацька не быў стары. Справа ў тым, што на працягу дзесяці апошніх гадоў жыцця Якуб Колас аж дваццаць шэсць разоў хварэў на запаленне лёгкіх. Недзе ў 1949 годзе кінуў курыць і пасля гэтага хварэў радзей.

Бацька быў па натуры маўклівы. Аднак праз гэту маўклівасць прабівалася яго дабрата. Вельмі добра адносіўся да жонкі. Маці мая была з рускіх, дачка святара. Аднак апанавала беларускую мову і як у слове, так і ў пісьме паслугоўвалася ёю вельмі добра. Дома мы гаварылі выключна па-беларуску. Бацькі ніколі не сварыліся. Атмасфера была выключна сардэчнай, цёплай, добрай. За гэта мы былі бацькам вельмі ўдзячны.

**— Колькі ў Якуба Коласа было дзяцей і які іх лёс?**

— Тры сыны. Я самы старэйшы. Нарадзіўся ў 1914 годзе. Сярэдні быў Юрка, нарадзіўся ў 1917 годзе. Яго лёс злажыўся трагічна. Загінуў ён як салдат Чырвонай Арміі ў першыя месяцы вайны. Трэці брат, Міхась, нарадзіўся ў 1926 годзе. Ён зараз доктар тэхнічных навук. Працуе ў Акадэміі навук БССР. Спецыяліст па металах і сплавах. Бацька не выбіраў для нас прафесіі, кожны з нас выбраў добраахвотна напрамак адукацыі.

**— Якой жанчынай была Ваша маці?**

— Надзвычайнай. Памерла яна рана, на 54 годзе жыцця, зараз жа пасля перамогі ў 1945 годзе. Памерла ў Маскве і адтуль прывезлі яе цела ў Мінск. Усё жыццё марыла аб тым, каб ляцець самалётам. Аднак пры жыцці так і не паляцела. Яе мара збылася толькі пасля смерці.

Бацька, хаця яшчэ і не быў старым чалавекам, увогуле не браў пад увагу магчымасці другі раз жаніцца. Настолькі быў адданы жонцы, настолькі яе кахаў, што не ўяўляў сабе, што мог бы звязаць лёс з іншай жанчынай.

**— Як Ваш бацька адносіўся да ўсякай навізны ў жыцці?**

— Бацька мой быў традыцыяналам. Вось, скажам, калі Янка Купала вельмі любіў модную вопратку, дык Якуб Колас за модамі не ганяўся. Дбаў, каб вопратка была акуратная і чыстая, але не цікавіўся, каб была моднай. Не насіў ручнога гадзінніка, ніколі не пісаў аўтаручкамі. Да канца жыцця пісаў пяром. Вельмі шкадаваў, што не было чарніла царскіх часоў, якое не блякла.

Што датычыцца ежы, дык любіў усё сялянскае. Еў бульбу з кіслым малаком, любіў вераш-

# АД НАРОДА ДА ЧАЛАВЕЦТВА

### (АБ ЭТНА-КУЛЬТУРНЫХ АСПЕКТАХ ТВОРЧАСЦІ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ) [1])

Творчасць Францішка Скарыны адлюстравала гістарычнае імкненне да кансалідацыі беларускага этнасу, гэта самое „нацыянальнае прабуджэнне“, з якім К. Маркс звязваў сутнасную характарыстыку еўрапейскага Адраджэння. Па сутнасці да Скарыны ўзыходзяць вытокі беларускай ідэі, абумоўленай нацыянальным самасцвярджэннем гэтага народа, насуперак пастаянна вісеўшай і вісячай над ім пагрозай асіміляцыі. Між тым этна-культурнае значэнне Скарынінскага наследства вывучана недастаткова. Уплывае на гэта, бадай, агульная недаацэнка даследчыкамі, і перш за ўсё беларускімі, праблем нацыянальнай самасвядомасці народа, беларускай нацыянальна-патрыятычнай ідэі. Як жа суадносяцца з гэтай ідэяй думкі і справы нашага выдатнага гуманіста-першадрукара? Хацелася б паказаць хоць бы на некалькі канкрэтных момантаў, якія датычаць народна-„рускага“ (= беларускага) самасцвярджэння Скарыны.

Першы — гэта выразна выказаная этнічная самасвядомасць аўтара „Бивлии руской“, яго падкрэсленае духоўнае яднанне з суайчыннікамі-русічамі, з людзьмі паспалітымі „руского языка“. Вачавідная для Скарыны і этнакансалідуючая роля роднай мовы, прадстаўленая пісьменнікам-перакладчыкам у двуіпастасным адзінстве філалагічных, кнігатворчых і маральна-этычных, выхаваўчых функцый. Вернасць роднаму слову абазначае важны крытэрый грамадзянскасці, патрыятызму: „наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил“ (Ф. Скарына. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969, с. 11). Дзякуючы Скарыне, ужо ў XVI ст. у беларускім грамадстве ўмацняецца аптымальная моўная сітуацыя, пры якой літаратурная творчасць на роднай мове і моўная самасвядомасць пісьменніка і чытача ўзаемна дапаўняюць, жывяць і духоўна дынамізуюць адзін другога. Ад умацавання ці аслаблення гэтага двуадзінства ў будучыні, як пакажа гістарычны вопыт, будзе ў многім залежыць развіццё ці заміранне нацыянальнай культуры, народна-беларускай ідэі ў цэлым.

Ад Скарыны, па сутнасці, пачынаецца наша традыцыя падкрэсленай, нярэдка смуткуючай прывязанасці да роднага, да мацярынскага слова, якой суджана будзе сыграць велізарную, неацанімую ролю ў процістаянні беларусаў нацыянальнаму прыгнёту, прымусовай асіміляцыі.

Другі момант датычыцца паняццяў „Русь“, „руски“, „руского“ і г.д. У скарынінскім кантэксце яны адлюстроўвалі гістарычную паслядоўнасць усходнеславянскіх народаў з традыцыямі дзяржаўнасці, культуры часоў Кіеўскай Русі. Выразнік „языка руского“ Скарына аб'ектыўна выступае ад імя беларусаў, вялікарускаў, украінцаў, пароднёных агульнасцю гістарычнага паходжання, веравызнання, моўным сваяцтвам. Асветнік з Полацка ўсведамляў і цаніў ідэю ўсходнеславянскай агульнасці, аб чым таксама сведчыць і цалкам верагодная версія пра падарожжа, на жаль, беспаспяховае, Скарыны ў Маскву з мэтай пашырэння сваёй асветніцкай дзейнасці. Але ў канкрэтна-этнічным значэнні „рускае“ самасцвярджэнне Скарыны звязана з яго непасрэднай радзімай — Руссю Літоўскай (адзін з этніконаў Беларусі XVI ст.), геаграфічныя і палітычныя рэаліі якой адлюстраваны на яго старонках: „из славного града Полоцка“; „во славном месте Виленском“; „при держании наласкавшаго господаря Жыкгымонта Казимировича, короля полского и великого князя литовъского, и рускаго, и жомоитьскагао“ (Ф. Скарына, Прадмовы... с. 116, 152). Да таго ж у скарынінскія і больш познія часы ўласна рускі народ у пісьмовых крыніцах беларускіх аўтараў (летапісы, творы С. Буднага, М. Стрыйкоўскага, Ф. Еўлашоўскага і інш.) выступае часцей за ўсё пад этнонімам „москва“, „московиты“, „москвичи“, гэта значыць, дзяржаўная прыналежнасць перанесена на этнічную. Таксама і беларусы на тым жа перамяшанні дзяржаўнасці і нацыянальнасці ў вачах рускіх аўтараў нярэдка былі „литвинами“, „литовцами“ (гл., напрыклад: Этнаграфія беларусаў. Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мінск, 1985, с. 79).

Трэці момант — канфесіянальны. Свой пераклад біблейскіх і богаслужэбных кніг Францішак Скарына прызначыў народу „руского языка“, у масе сваёй праваслаўнага веравызнання. Але вось дэталь. Уступныя, тлумачальныя тэксты да пераклада і выдання кніг першадрукар не забяспечыў натуральнай, нават абавязковай для такога выпадку агаворкай тыпу „еже суть в православной вере“. Выпадковасць? Наўрад, ці так. Як не выпадковы адпаведны пасаж у прадмове да Астрожскай Біблii 1581 г. выдання І. Фёдарава, якая прызначалася „всем глаголящимся языку словенскому и объединяющиеся тое ж у церкви православного всяческого чина христоименитым людям“. Скарына фактычна абышоў адно з прынцыпіяльных, „рытуальных“ свайго роду правілаў абыходжання з біблейскімі тэкстамі. Пазіцыя для католіка (шэраг простых і ўскосных біяграфічных дадзеных гавораць пра „католичество“ беларускага першадрукара), скажам проста, дастаткова верацярпімая, гуманістычная. Застаючыся сынам свайго „руского“ народа, Скарына быў жывым прыкладам размежавання канфесіянальнасці і народнасці. І ў той жа час ён увасобіў у сабе спецыфічную рысу беларускага этнаса, як поліканфесіянальнай агульнасці (праваслаўныя, католікі, пазней — пратэстанты, уніяты і г.д.). З гэтага ж пункту гледжання і творчы лёс Скарыны з'явіўся адлюстраваннем характэрнай якасці беларускай культуры, якая ўзнікла і развівалася на базе спалучэння ўсходневізантыйскіх, праваслаўных і заходнееўрапейскіх каталіцкіх пачаткаў. Асабісты прыклад гуманіста-асветніка гаворыць таксама аб тым, што поліканфесіянальны характар народа не абавязкова парушае яго

Тыдзень у БССР




Тадэвуш Гавін, старшыня праўлення Польскага культурна-асветнага таварыства імя Адама Міцкевіча ў Гродне, папрасіў пазнаёміцца з адным, як ён сказаў, вельмі важным дакументам.

— Тут выяўляецца ідэйная аснова нашай грамадскай і асветнай дзейнасці, — паясніў пан Тадэвуш.

Машынапісны тэкст быў адрэдагаваны на рускай мове. Вось яго поўны пераклад:

„Паважаныя Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў і Войцех Ярузельскі!

Дзякуючы вашай сустрэчы і падпісанню супольнай савецка-польскай дэкларацыі, якая — нам на вялікую радасць і задавальненне — ажыццяўляецца не на словах, а ў дзеянні, дзякуючы вашаму ўзаемнаму ўкладу ў працэс рэалізацыі новага мыслення ў міжнародных зносінах, у правільнае вырашэнне нацыянальных пытанняў, 10 жніўня 1988 года пры Гродзенскім абласным фондзе культуры на аснове рашэння агульнага сходу жыхароў горада Гродна створана Культурна-асветнае таварыства палякаў на Гродзеншчыне імя Адама Міцкевіча. Дзякуючы вам на Гродзеншчыне, дзе ў гэты час пражывае 300 тысяч палякаў, зноў будзе магчымым навучанне іх роднай мове ў школах нароўні з іншымі мовамі народаў, насяляючых гэты рэгіён. Гэтым самым будзе багацець нацыянальная культура польскага народа, якая — чаго мы спадзяемся — належна ўвальецца і ўзбагаціць шматнацыянальную культуру савецкага грамадства.

Па даручэнню ўстаноўчага сходу мы завяраем вас, Міхаіл Сяргеевіч, што ў асобах палякаў, пражываючых на Гродзеншчыне, здабылі вы 300 тысяч удзячных сэрцаў, якія зараз яшчэ болей актыўна будуць падтрымоўваць палітыку перабудовы, якую вы праводзіце.

Дзякуем таксама Войцеху Ярузельскаму за шчыры клопат аб сваіх земляках на цэлым свеце і спадзяемся, што не будзе ён забываць і аб нашай Гродзеншчыне, а магчыма, што па дарозе ў Вільнюс заедзе і да нас у час чарговага візіту ў нашу краіну. Будзем рады сустракаць яго хлебам — соллю.

Жадаем вам абодвум моцнага здароўя і доўгага жыцця. Яго вам яшчэ, ой, як спатрэбіцца! Мы ўскладаем на вас вялікія спадзяванні ў развіцці новых, болей цывілізаваных суадносін між народамі цэлага свету, між народамі нашых дзвюх краін, — СССР і ПНР.

Праўленне Культурна-асветнага таварыства палякаў на Гродзеншчыне імя Адама Міцкевіча.

Гродна, 10 жніўня 1988 года.“

Прачытаўшы гэты зварот да найвышэйшых аўтарытэтаў у нашых абедзвюх краінах, я даўжэйшую хвіліну маўчаў. Гэты час спатрэбіўся мне, каб увабраць у сябе і сэнс і змест гэтай падзякі і дэкларацыі адначасова. Усплыла ў маім сэрцы горкая кропля няўмеснай зайздрасці. Хто за нас, беларусаў, пражываючых у Польшчы, так шчыра захоча заступіцца? Праўда, паявіліся і на нашым панадворку праблескі новага мыслення. Урэшце партыйная дэлегацыя ад цэнтральных улад БССР пажадала сустрэцца з прадстаўнікамі Беларускага таварыства, наведала асноўныя цэнтры пражывання беларусаў у Польшчы, пацікавілася нашымі праблемамі.

З роздумаў вырваў мяне спеўны голас пана Тадэвуша, які цэлы час гаварыў па-польску:

— Я вельмі ж хацеў бы, каб напісалі вы, што мы цешымся, што беларусы ў Беластоку маюць сваю газету „Ніву“, што могуць чытаць яе на сваёй роднай мове, што існуюць беларускія самадзейныя калектывы, а дзеці ў школах вывучаюць беларускую мову...

Сапраўды, палякі ў БССР, а ў тым ліку і на Гродзеншчыне, пакуль што ўсяго гэтага не маюць. Польскае культурна-асветнае таварыства імя Адама Міцкевіча не мае яшчэ свайго пастаяннага памяшкання. Пісьменнік, **Аляксей Карпюк**, якому, так сказаць, падначалены дом-музей Элізы Ажэшка, прымае, па меры магчымасці, сяброў-палякаў пад дахам гэтага ж дома, дазваляе ім праводзіць тут сходы праўлення і сустракаць гасцей.

Мне здаецца, што гэты дом з'яўляецца якраз адпаведным месцам для разгортвання дзейнасці ў карысць польскай культуры. Яшчэ ў час царскага прыгнёту актыўна служыў ён польскай справе, у яго сценах назаўсёды замацаваўся польскі дух.

Тадэвуш Гавін і яго сябры спадзяюцца, што разгорнецца ў іх шырокая культурна-асветная дзейнасць. Яны хацелі б, каб была ў іх свая газета, каб польскае слова гучэла на хвалях Гродзенскага радыё, а магчыма, каб і знайшлося месца для іх у абласным тэлебачанні. То ж у суседнім Вільнюсе кожны тыдзень выходзіць ужо на экран **„Польская панарама“**. Пажадаюць яны, каб як мага хутчэй

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Гарцэрская дружына Падставовай школы ў Нарве.

Фота Я. Чэрнякевіч

Алесь Махнач




### П'ЕСА-КАЗКА Ў АДНОЙ ДЗЕІ

Дзеючыя асобы:

**Мядзведзь. Заяц-пузаяц. Зайка шэранькі. Зайка беленькі. Ліса-хітрыца. Воўк.**

*Дзея адбываецца ў лесе. На пярэднім плане — паляна, ярка асветленая сонцам, відаць пні. Справа — густы хмызняк. Злева — домік Зайца-пузайца. Расчыняюцца дзверы доміка. На парог выходзіць Заяц-пузаяц, за ім — Зайка беленькі і Зайка шэранькі.*

Заяц-пузаяц *(зірнуўшы на неба)*. Ах, як цёпла стала! Ну, дзеткі, цяпер няма чаго мне з вамі сядзець. Пайду па шчаўе.

Зайка шэранькі. Вазьмі нас!

Зайка беленькі. І мы з табою!

Заяц-пузаяц. Яшчэ чаго не хапала! Лепш сядзіце дома.

Зайка шэранькі. Мы табе дапамагаць будзем.

Заяц-пузаяц. Не столькі той дапамогі, колькі клопатаў лішніх набярэшся.

Зайка беленькі. Мы шчаўя назбіраем.

Заяц-пузаяц. Яшчэ воўчага мне ў кошык накідаеце. Хопіць! Ведаю. Адна марока з вамі: вачэй з вас спускаць нельга, так і глядзі, каб часам воўк ці ліса не схапілі каторага. Лепш зачыніцеся і сядзіце ціха, каб ніякі звер у хату не ўбіўся.

Зайка шэранькі. Ты толькі палохаеш нас ваўком, а яго зусім няма. Гэта каб паслухмянымі былі.

Заяц-пузаяц. Ах, малыя дурні! Калі вы паразумнееце?

Зайка шэранькі. А мы не дурныя.

Зайка беленькі. Мы разумныя.

Зайка шэранькі. І паслухмяныя, праўда, беленькі?

Зайка беленькі. Праўда, шэранькі.

## СВАВОЛЬНЫЯ ЗАЙЧАНЯТЫ

Заяц-пузаяц *(абымае дзяцей)*. Калі будзеце паслухмянымі, дык я ў нядзелю вам нештачка на кірмашы куплю.

Зайка шэранькі. А што? Мячык, напэўна?

Зайка беленькі. Веласіпед?

Заяц-пузаяц. Не ўгадалі. Табе, шэранькі, чырвоныя боцікі, табе, беленькі, вышываную кашульку.

Зайка шэранькі. Мы нікуды не пойдзем з хаты.

Зайка беленькі. Мы цябе будзем слухацца.

Заяц-пузаяц *(бярэ кошык і кій)*. Ну, я пайшоў. А вы замыкайцеся і нікому не адчыняйце дзвярэй. Калі есці захочаце, каша на паліцы, а лыжачка ў чарапіцы. *(Выходзіць)*.

*Заяц-пузаяц ідзе ў глыб лесу. Зайчаняты, зачыніўшыся ў хаце, глядзяць праз шыбы акна ўслед бацьку, пакуль ён не знікае ў гушчары. Неўзабаве Зайка беленькі адчыняе насцеж акно.*

Зайка шэранькі. Зачыні! Што ты робіш? Тата ўбачыць!

Зайка беленькі. Ён далёка.

Зайка шэранькі. Як даэнаецца, дык усыпле табе бярозавай кашы.

Зайка беленькі. Тата наш добры. Гэта ён толькі нас палохае бярозавай кашай ды ваўкамі, каб мы слухаліся яго.

Зайка шэранькі. Ваўкі ўсё-такі ёсць, і бярозавая каша — таксама.

Зайка беленькі. Няма ваўкоў!

Зайка шэранькі. Ёсць!

Зайка беленькі. Няма! *(Расчыняе насцеж дзверы.)* Глядзі! Я не баюся!

Зайка шэранькі. Куды? Назад, беленькі!

Зайка беленькі *(стаіць на ганку, гукае ў лес)*. Гэ-э-эй! Ваўкі! Ідзіце сюды, хапайце мяне! Ваўкі! Гэ-э-эй! *(Прыслухоўваецца.)* Няма! Бачыш! *(Спявае і, падскакваючы, ідзе на палянку.)*

А я Зайка беленькі,
Белы-белячок!

Зайка шэранькі *(крычыць услед)*. Брацік, вярніся!

Зайка беленькі *(ускочыў на пень)*. А як добра! *(Саскочыў на зямлю.)* А як цёпла! *(Куляецца па траве)*. А як весела! Шэранькі, ідзі сюды!

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### ХУТКА ЗІМАЧКА

Міхы Дзімачка,
Хутка зімачка!
А дзе ж лыжы і канькі?
Будуць шчасныя дзянькі.

Маеш толькі самакат,
Ты яму зусім не рад.
На сцяжынках мокра, гразь,
Хоць ты з хаты не вылазь.
Паглядзі ты лыжы ў сенцах,
Каля самага акенца,
І канькі там іржавеюць,
А вастрыць ты іх умееш?
Міхы Дзімачка,
Хутка зімачка!

### ЗАБАЛЕЛІ Ў МЫШКІ ЗУБКІ

Забалелі ў мышкі зубкі,
Бо старанна грызла крупкі.
Пратачыла дзірку ў скрыні,
Быў там хлеб у гаспадыні.
Завіхалася нямала,
Бо ў кубельцы было сала,
І туды яна залезла,
Былі зубы, як жалеза.
А цяпер аж стала млосна,
Боль вялізны, невыносны.
Каля норкі блізка грады,
Мчыцца мышка за парадай
Да старэнькае рапухі.
А лавіла тая мухі,
Ела гусеніц і мошак,
Цвёрдых не спаткала крошак.
Жаба, гэтая рапуха,
Мышцы раіла на вуха:
— Без зубоў я. І ніколі
Я твайго не знала болю.
Вунь на лаўцы кот пушысты,
Яго знаюць як дантыста.
Стань і зубкамі паляскай,
І скажы: — Дантыст, будзь ласкаў,
Глянь на зубкі, мілы кот!
Расхінай шырэй ты рот.
Мыш спіну сваю сагнула,
Бо пра лекара пачула,
Не пыталася ўжо болей
І забылася аб болю.
— Твае словы, як гарчыца,
Я сама буду лячыцца...
Мыш крыху нарвала мяты
І бягом хутчэй дахаты.

### ЛЯСНЫ ХАКЕЙ

На палянцы у хакей
Зайчыкі гулялі.
Баязлівы верабей
Сеў як можна далей.
Так кружылі — лёд трашчаў
І трашчалі клюшкі.
— Брава! Брава! — сыч крычаў,
Аж нямелі птушкі.
Злева быў варатором
Медзвядзюк рухавы,
З доўгай клюшкаю-калом
Воўк стаяў направа.
Дацямна ішла гульня.
Страшнай ноч здалася.
Доўга воўчая гайня
У логава плялася.
У бярлог пайшоў мядзведзь,
Зайчыкі — у хаткі.
Нельга больш было сядзець,
Забалелі лапкі.
Крыкі, воплескі, як гром,
Чуліся навокал.
І не спала ўсё кругом —
Блізка і далёка.

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ




### КАМАРЫ ГУДУЦЬ

*— Камары гудуць,*
*Мне спаць не даюць;*
*Ой, пайду я ў каморачку* } 2 разы
*Ды прылажу галовачку,*
*То я там прызасну.*

*Свякроўка ідзе,*
*Як змейка, гудзе:*
*— Санлівая, драмлівая,* } 2 разы
*Заспаная, няўдалая*
*Сыновая мая.*

*— Камары гудуць,*
*Мне спаць не даюць;*
*Ой, пайду я ў каморачку* } 2 разы
*Ды прылажу галовачку,*
*То я там прызасну.*

*А свякорка йдзе,*
*Як ветрык, гудзе:*
*— Не санліва, не драмліва,* } 2 разы
*Не заспана, а ўдала*
*Сыновая мая.*

*— Камары гудуць,*
*Мне спаць не даюць;*
*Ой, пайду я ў каморачку* } 2 разы
*Прылажу я галовачку,*
*Ды я там прызасну.*

*Міленькі ідзе,*
*Як голуб, гудзе:*
*— Калі будзе здароўіца, —* } 2 разы
*Уся работка паробіцца, —*
*Ідзі ляж прызасні.*



Цяпер ведаю, чаму ты ані разу мяне не перарваў! Думаеш, што я сама сабе буду верашчаць?

# НІЎКА




Калі сілаю не зацягнеш старога кавалера ў ЗАГС, ён не ажэніцца.

### УНІКЛІВЫЯ ДУМКІ

Той чалавек, якога ты любіш ва мне, безумоўна, лепшы за мяне; я не такі. Але ты любі, і пастараюся быць лепшым за сябе.

Міхаіл Прышвін (1873—1954) пісьменнік

— Афіцыянт, вы не можаце мне сказаць, колькі гадоў гэтай курыцы?

— Прабачце, да курыцы мы даем бульбу, моркву, зеляніну, але не біяграфію, на жаль, ніколі.

— ✳ —

Муж і жонка прыходзяць да варажбіткі.

— Мяне зусім не цікавіць яго будучыня, — гаворыць жонка варажбітцы. — Вы скажыце мне, дзе ён быў учора вечарам?

— ✳ —

Дама прыйшла да хірурга і папрасіла зрабіць ёй якую-небудзь аперацыю.

— Як гэта „якую-небудзь"? — здзівіўся хірург.

— Бачыце, калі я прыходжу да знаёмых, я ніколі не магу прымаць удзел у размове, таму што ў мяне не было ніякай аперацыі і мне няма пра што гаварыць.

— ✳ —

Паэт скардзіцца лекару:

— Малю вас, памажыце! Калі я дапазна пішу вершы, дык пасля да раніцы не магу заснуць.

— А вы не прабавалі пачытаць нанач тое, што напісалі?



**Ён пільнай работы цярпець не мог, а начальству ў вочы пыл пускаў.**

Аркадзь Інін і Леанід Асадчук
Малюнак Іосіфа Аффенгендзена



### АПТЫМІСТ І ПЕСІМІСТ

Сустрэліся два прыяцелі: у аднаго настрой вясёлы, сонечны. У другога — сумны, пануры.

— Ты чаго такі сумны? — запытаў вясёлы.

— А ты чаго такі вясёлы? — запытаў сумны.

— Бачыш; лісточкі, ручаі, капеж — радасць. Таму і вясёлы.

— Бачу... Лісточкі, ручаі, капеж — сырасць. Ад гэтага і сумны.

— Дык ты паслухай: салаўі пяюць — немагчыма заснуць!

— Чую, чую... Салаўі пяюць — немагчыма выспацца!

— Кінь! Зноў вясна — жыццё ідзе.

— Вось, вось... Зноў вясна — жыццё праходзіць...

Пагаварылі яны так і разышліся.

— ✳ —

Прафесар:

— Вы ні ў чым не разбіраецеся па хіміі!

Студэнтка:

— Гэта не зусім так, прафесар, інакш я не была б бландзінкай.

— ✳ —

Малыш папрасіў у гасцях другі кусочак торта.

— Я табе гаварыла, што непрыгожа прасіць другую порцыю, — дакарала маці сына.

— Гаварыла. Але ты не ведала, што кусочкі будуць такія маленькія.

— ✳ —

Жонка аднойчы села за кіраўніцу аўтамашыны і гаворыць мужу:

— Усё добра, апрача люстэрка.

— Чаму?

— Яно ўстаноўлена няправільна: я бачу ў ім не сябе, а нейкія машыны, што едуць ззаду.

— ✳ —

— Васіль, ці ты на сабе пранясеш гэты трактар? — жартам пытае пажылы чалавек у маладога хлопца.

— Дзіва што пранясу, дзядзька, — адказвае той. — Толькі мне яго на плечы паддайце!

— ✳ —

— Вы што, сваю Лізу рашылі выдаць замуж за гэтага лайдака?

— Так. А ў чым справа?

— Дык ён ужо тры гады нідзе не працуе.

— А казаў толькі два...

— Скажыце, калі ласка, у які час пачынаецца прылiў? — спытаў хлапчук старога вусатага чалавека на прыстані.

— Я ж табе толькі што сказаў: у пяць пяцьдзесят пяць. Няўжо ты не можаш запомніць?

— Я запомніў, але мне падабаецца глядзець, як рухаюцца вашы вусы, калі вы вымаўляеце: пяць пяцьдзесят пяць.

— ✳ —

— Суседка, вы калі-небудзь спорыце з мужам?

— Зразумела што не. Гэта не мае сэнсу. Ён усё роўна ніколі не мае рацыі.

— ✳ —

— Гэта гістарычны раман? — спытаў рэдактар у аўтара, які пікавіўся лёсам свайго рукапісу, адпраўленага ў выдавецтва некалькі год назад.

— Цяпер ужо так, — сумна адказаў пісьменнік.



— Як мне апрануцца сёння?

— Хутка.



**Цяжка знайсці корань зла, калі ён у табе самім.**